–Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
2
ЖНІЎНЯ
1991 г.
№ 31 (3597)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы —
10 кап.)

## РАСПАД




Анатоль СІДАРЭВІЧ: «Ёсць такія арганізмы, якія не могуць жыць на свежым паветры, пад сонцам. КПБ, КПСС з такога роду арганізмаў. Свежы ветрык самых маленькіх перамен, дэмакратызацыі, святло праўды дзейнічаюць на іх згубна...»

СТАРОНКА 4.

## ЗАЎСЁДЫ ЎЧАРАШНІЯ

Нататкі філосафа У. Семенюка пра бальшавіцкую канферэнцыю ў Мінску.

СТАРОНКІ 5, 12.

## СЦЕРАЖЫЦЕСЯ, ЁН ЯШЧЭ ЖЫВЫ!

Сяргей ГРАХОЎСКІ: «Па плошчы лязгалі гусеніцамі два танкі,.. мітусіліся высокія вайсковыя чыны, аддавалі ўзмоцненыя мегафонам каманды. Сапёры ў пастаменце свідравалі адтуліны, закладалі ў іх тол. Па лесвіцы папаўзла постаць у бліпчастай касцы і накінула пятлю з тоўстага тросу на шыю таварыша Сталіна...»

СТАРОНКІ 5, 12.

## ЕЎРАЦЭНТРЫЗМ І НЕЕЎРАПЕЙСКАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА

або Ці беларускі гэта шлях — «вяртанне ў Еўропу»?

СТАРОНКІ 6—7.

## ПОМНІК БУДЗЕ... АЛЕ ЯКІ?

«Як гэта ні дзіўна, але дагэтуль не акрэслена ідэйная канцэпцыя мемарыяла каля Траецкага прадмесця, незразумела, каму і з якой мэтай ставіцца помнік. Мы збіраемся ўславіць подзвігі ці ўшанаваць ахвяры, ці зрабіць і тое і другое адначасова? Які ўвогуле сэнс мы ўкладваем у разуменне «афганская вайна»? Гэта інтэрнацыянальная дапамога суседняй дзяржаве ці злачынства супраць яе народа?.. Помнік славы ці помнік пакаяння...»

СТАРОНКІ 10—11.

## КУРАПАТЫ–ІГУМЕН: КРЫВАВАЯ ДАРОГА




Жальбіны на Чэрвеньшчыне ў памяць бязвінна закатаваных.

СТАРОНКА 13.



Якімі толькі эпітэтамі, несправядлівымі і бруднымі, не суправаджалася імя айца Надсана на старонках рэспубліканскага друку. А ён зноў і зноў прыязджае да нас з чарговай партыяй лекаў для чарнобыльскіх дзяцей. З Англіі ён едзе ў чарнобыльскую зону (а ці бывалі там тыя, хто распускае пра яго плёткі), каб сустрэцца з людзьмі, каб даведацца пра іх турботы і патрэбы. Вось і гэты здымак Анатоль Кляшчук зрабіў у Хойніцкай раённай бальніцы, куды айца НАДСАНА прывяла дабрачынная місія і любоў да Бацькаўшчыны.

ПА СТАРОНКАХ ДРУКУ

# СПРАВА ДЛЯ «СЛАВЯНСКИХ ВЕДОМОСТЕЙ»

Газета «Славянские ведомости» мае вельмі своеасаблівы дэвіз: «О крепись, моя Родина!». І то праўда, маючы такіх «дзетак» як «Политический собеседник», «Время и мы», «Славянские ведомости», а галоўнае — тых, на чыім утрыманні знаходзяцца гэтыя і падобныя ім «незалежныя» органы, Радзіма павінна рыхтавацца да горшага. Можа, да надзвычайнага становішча і грамадзянскай вайны. Тут варта нагадаць словы Віталя Кароціча: «Нячаста даводзіцца трымаць у руках такія канцэнтраты нянавісці і глухаты. І бяссілля. Гэта трэба чытаць, каб убачыць і зразумець, ад чаго мы атрасаемся. *Павінны атрэсціся.* Сёння асабліва відавочна тэндэнцыйнасць ілжы: не памылка, а менавіта тэндэнцыйная *няпраўда*, якую спрабавалі ўкараніць у народную свядомасць, каб чарговы раз павярнуць яе сабе на карысць».

«Славянские ведомости» аплакваюць паражэнне іракскага дыктатара Саддама Хусейна ў вайне супраць Свабоднага свету. Чытачам даводзяць, што «Сталін — гэта эпоха барацьбы і перамог, умацавання дзяржавы, паляпшэння жыцця працоўных», і што ідэя стварэння нацыянальнага культурна-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны выспела не ў свядомасці беларускага народа, а ў нетрах ЦРУ, і яшчэ шмат чаго...

Мы ж засяродзім увагу на публікацыі «Яшчэ раз пра ААН, ЮНЕСКА і грошы для Чарнобыля», змешчанай у № 3 памянёнага выдання. Бо публікацыя гэта з'яўляецца вельмі сімптаматычнай напярэдадні падпісання новага Саюзнага дагавору. Сэнс адкрытага ліста «Славянских ведомостей» міністру замежных спраў П. Краўчанку такі: Беларусь як суверэнная дзяржава — сябра ААН, ЮНЕСКА, іншых міжнародных арганізацый павінна ўносіць грашовыя складкі ў фонды гэтых арганізацый, і, зразумела, не ў «драўляных» рублях, а ў канвертуемай валюце, якой нам самім не хапае на барацьбу з наступствамі Чарнобыля. Гэта ненармальна. Таму «выхад Беларусі з ААН і іншых міжнародных арганізацый быў бы зразумелым прадстаўнікамі розных краін — бо справа ідзе аб выжыванні народа».

Пытанне аб фінансаванні Чарнобыльскай праграмы на Беларусі сапраўды надзвычай важнае. Але чаму ж, узяўшыся за яго вырашэнне, «Славянским ведомостям» не звярнуць увагу на тое, што сёння Беларусь будуе *казармы* для дадатковых кантынгентаў Савецкай Арміі, што выводзяцца з былых сацыялістычных краін, у той час, калі няма ні фондаў, ні сродкаў, ні будаўнічых матэрыялаў для стварэння новых паселішчаў на чыстых землях для «чарнобыльцаў»? Чаму б газеце не абурыцца тым, што Беларусь — ахвяра Чарнобыля — па-ранейшаму аддае ўсю зробленую яе прадпрыемствамі валюту на патрэбы Цэнтра? Нарэшце, ёсць шматмільённая ўласнасць КПСС-КПБ, якую таксама можна было б скарыстаць больш рацыянальна, чым на аздобу жыцця партыйнай наменклатуры (медыцынская спецабслуга, спецжыллё, спецпайкі, спецпаездкі па дыпламатычнай лініі за мяжу і гэтак далей). Дык, можа, Беларусі лепш выйсці не з ААН, а з Савецкага Саюза? Каму перашкаджае членства Беларусі ў ААН?

Міжнародны статус Беларусі і Украіны вельмі своеасаблівы. Гэтыя рэспублікі, будучы часткамі унітарнай савецкай дзяржавы, адначасова прадстаўлены ў свеце і як дзяржавы суверэнныя. Такая акалічнасць стварае для Крамля пэўныя праблемы. Калі, скажам, нейкі замежны урад, дзяржаўны дзеяч ці прадпрымальнік спрабуе выйсці на Латвію ці Грузію, не спытаўшы дазволу Масквы, тая падымае вэрхал аб умяшальніцтве ва ўнутраныя справы СССР. І тут усё па закону. Але гэты закон не распаўсюджваецца на Беларусь і Украіну. Праўда, пакуль, пры сённяшнім рэспубліканскім урадзе і Вярхоўным Савеце БССР, Беларусь «ведае сваё месца».

Пакуль... А што будзе заўтра?

Дарэчы, пытанне аб захаванні за Беларуссю месца ў ААН пасля падпісання новага Саюзнага дагавору, які знешнюю палітыку цалкам аддае Цэнтру, увесь час неяк замоўчваецца. Маўляў, падпішам дагавор, а там пабачым («Кося, кося — пакуль у аглоблі»). І найлепшае выйсце пэўным колам бачыцца, відаць, у тым, каб Беларусь «дабраахвотна» адмовілася ад месца ў ААН.

Цікава і тое, што друкаваць гэты абсурд у «Звяздзе» ці «Советской Белоруссии» не сталі. Гэтыя газеты ўсё ж такі маюць пэўны аўтарытэт, пэўны статус. Для такіх спраў ёсць «Славянские ведомости».

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

РЭПЛІКА

# ПАД ЗЯМЛЁЙ УСЁ ПА-РАНЕЙШАМУ

**Колькі было коп'яў зламана з-за таго, што многія вуліцы сталіцы рэспублікі ды і іншых гарадоў маюць назвы... саюзнага значэння. Здавалася б, справядлівасць пакрысе пачынае вяртацца. Толькі ў апошні час у Мінску зноў з'явіўся Лагойскі тракт, вуліцы Даўгабродская, Старажоўская...**

***Праўда, у дачыненні да метро*** **змен аніякіх. Хіба што толькі станцыі Купалаўская і Няміга маюць беларускі каларыт. Астатнія ж... Пралетарская, Першамайская, Фрунзенская, Кастрычніцкая... Ці то ў Мінску знаходзішся, ці ў якім-небудзь іншым «звышінтэрнацыянальным» горадзе!**

**Магчыма, сёе-тое ў Мінгарвыканкоме робіцца, каб неяк упарадкаваць назву новых станцый метрапалітэна, надаць ім нацыянальнае гучанне?**

**Разгортваю адзін з нумароў газеты «Добры вечар» (за 22 ліпеня 1991 года) і позірк спыняецца на інфармацыі «Я ведаю: станцыя будзе!». У ёй паведамляецца: «Думаецца, мінчанам цікава будзе даведацца, што станцыя, якая сёння ўзво*дзіцца і маршрут якой пройдзе* ад прыпынку «Усход» да лёгкаатлетычнага спартыўнага комплекса СК ЧБВА часова, як рабочая назва, прысвоена найменне «Спартыўная». Станцыя ж ад прыпынку «Інстытут культуры» да комплекса Белдзяржуніверсітэта часова названа «Універсітэцкая». І далей: «Такое рашэнне прынята 17 лі*пеня гэтага года на пасяджэн*ні камісіі Мінгарвыканкома па назвах і перайменаваннях вуліц горада Мінска».**

**Ёсць станцыя «Трактарны завод» — калі ласка — «Спартыўная»... Ёсць «Пралетарская» — наце — «Універсітэцкую». Як быццам, ніхто і не пакрыўджаны. І рабочы клас увагай *не абдзелены*, і савецкае студэнцтва. І ўсе яны разам, паколькі любяць спортам займацца.**

**А калі сур'ёзна? *Няўжо ні ў кога з членаў камісіі (а у ёй* нямала аўтарытэтных таварышаў) фантазія на большае няздатна?! І хіба можна паверыць, што рабочая назва з цягам часу не стане назвай пастаяннай?**

**Выйсце, думаецца, у адным. Пакуль не позна аб'явіць гарадскі конкурс наконт будучых назваў новых станцый метра*палітэна*.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

АБ'ЯВА

# «ЛіМ»-92

**З 1 жніўня ў вас з'явілася цудоўная магчымасць усталяваць самы надзейны і трывалы кантакт з нашай газетай — падпісацца на «ЛіМ» УЗОРУ 1992 ГОДА.**

**Усяго за 5 рублёў 16 капеек (даражэе ўсё, акрамя падпіскі на «ЛіМ») вы будзеце кожную пятніцу на працягу года дставаць з паштовай скрынкі СВЕЖЫ НУМАР «ЛіМа».**

**І ў наступным годзе шаснаццаць лімаўскіх старонак мы пастараемся запоўніць самай разнастайнай інфармацыяй з грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага жыцця рэспублікі.**

## Выпісвайце і чытайце штотыднёвік «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА», газету творчай інтэлігенцыі Беларусі!



## ПРАБАЧ, МАКСІМЕ!

Мінск. 29 ліпеня 1991 года. 19 гадзін 40 хвілін. Помнік Максіму Багдановічу. Дажыліся, людцы добрыя...

АДГАЛОСКІ

# *Паўднёва-ўсходні Вавілон?*

Асацыяцыя з біблейскім сюжэтам узнікае, калі спрабуеш асэнсаваць мову выданняў, надрукаваных... па-беларуску. Дакладней кажучы — гэта іх выдаўцы лічаць, што выданні друкуюцца на самай «сапраўднай» беларускай мове, але калі бярэш у рукі пэўныя «беларускія» газеты, дык бракуе школьнай граматы, каб адолець тэкст.

Раней хоць існавала пэўнасць у моўным пытанні: рэспубліканская прэса, радыё і тэлебачанне ўжывалі а д з і н у ю ўнармаваную мову, якая не змянялася ад рэформы 1957 г. Праўда, эміграцыя друкавала газеты і выступала па радыё «Свабода», карыстаючыся граматыкай Б. Тарашкевіча — першай сістэматызаванай граматыкай нашай мовы, прапанаванай у 1920-х гг. Чытачы ж мелі самае эфемернае ўяўленне аб «тарашкевіцы».

Восенню мінулага года прапановы перагледзець і дапоўніць існуючы правапіс усё-ткі патрапілі ў Дзяржаўную праграму развіцця мовы, якая прадугледжвае абмеркаванне сучаснага правапісу на акадэмічным узроўні. Але на працягу года моўная праблематыка была пазначана толькі II з'ездам ТБМ імя Ф. Скарыны — пазначана намінальна, без канкрэтызацыі супярэчлівых тэндэнцый у развіцці мовы.

Прэса ж гэтую супярэчлівасць яскрава дэманструе. Напрыклад, выданні «Свабода», «Навіны БНФ», шмат якія рэгіянальныя «ўлёткі» і «старонкі» ўжываюць элементы правапісу 20-х гадоў, спалучаючы іх з сучаснымі правіламі. Ці не самыя адметныя рысы гэтых выданняў — ужыванне «ь» паміж падвоенымі зычнымі і для абазначэння мяккасці зычных паводле глухасці (сьнег, карэньне і да т. п.), ужыванне прыназоўнікаў НЯ, БЯЗ (ня можна, бяз гэтага і г. д.), правапіс «поўных» канчаткаў назоўнікаў (гадзінаў, хвілінаў, навукаў і г. д.). «Тарашкевіцай» у чыстым выглядзе звычайна друкуецца каля палову матэрыялаў: відаць, не стае спецыялістаў.

У мове Тарашкевіча адраджаецца «Наша Ніва», першы нумар якой выпушчаны ў траўні г. г.

Шэраг «навамоўных» выданняў доўжыць «газэта громадсько-культурного згуртовання «Полісьсе», якая мае назву «Збудінне». Матэрыялы «Збудіння» надрукаваны «мовай яцьвягаў», інакш кажучы — новай мовай, якая ствараецца на аснове палескіх гаворак Брэсцкай вобласці. Відаць, у гэтым кірунку можна чакаць новых адкрыццяў, бо правапіс «мовы яцьвягаў» канчаткова пакуль што не выпрацаваны.

Нарэшце, яшчэ адзін (ці не пяты па ліку?) варыянт беларускага правапісу прапануе газета славяна-моўных ліцьвінаў «Fschodnia Litva», якая друкуецца лацінкай у Вільні. Рэдакцыя віленскай газеты падкрэслівае, што друкуе свае матэрыялы паводле «вячскага дыялекту Аукштоты і Дзукіі» (этнічныя раёны Летувы). Прачытаўшы «газету ліцьвіноў» услых, можна зразумець, што гэты дыялект — дыялект беларускай мовы.

Такім чынам, усе прыклады «дыялектызацыі» друку — на карысць расшчаплення адзінай унармаванай мовы, якая, як літаратурная мова беларусаў, задавальняла дагэтуль і вучоных-лінгвістаў, і грамаду. Феномен у чымсьці нагадвае гісторыю з вавілонскай вежай, толькі там будаўнікі па-рознаму маліліся адзінаму Богу, у нашым жа выпадку адзіны Бог — мова — усё больш настойліва крытыкуецца і досыць адвольна «ўдасканальваецца» незалежнай прэсай.

Ці маюць рацыю прыхільнікі моўнай рэформы? У кожнага з іх свае аргументы, якія зводзяцца да аднаго: прыдаць мове адметнасць у параўнанні з рускай. *Памкненне, на маю думку, слушнае, бо* зашмат у нашай лексіцы калькаваных адзінак (пры наяўнасці ўласных слоў).

Але, як паказвае *практыка*, на дзяржаўным узроўні згаданыя прапановы пакуль што ігнаруюцца, хаця ўсе пералічаныя вышэй газеты афіцыйна зарэгістраваны, таму і іх дзейнасць мае афіцыйна-грамадзянскі характар. Можа, ачнуцца нарэшце акадэмічныя галовы, і мы пачуем кампетэнтнае меркаванне наконт моўнай сітуацыі?

**Юрась ЗАЛОСКА.**

**Нагадваем, што артыкул Валянціна Акудовіча «Пошукі страчанага вобраза» («ЛіМ» за 8.03 г. г.) даў падставу для водгукаў, разваг, спрэчак. Своеасаблівым працягам яго сталі публікацыі Н. Гальпяровіча, І. Чароты, Г. Тычкі. У гэтым нумары Алесь Сімакоў выказвае свой погляд на магчымыя шляхі нацыі, аддаючы перавагу «нееўрапейскай альтэрнатыве».**

**СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА**

# ЕЎРАЦЭНТРЫЗМ І НЕЕЎРАПЕЙСКАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА

Пад еўрацэнтрызмам у гэтым артыкуле разумеецца, па-першае, імкненне да еўрапейскіх мадэляў, па-другое, ацэнка другіх народаў з абмежавана еўрапейскіх пазіцый.

Праблема этнацэнтрызму адносіцца да больш шырокай і фундаментальнай «бінарнай апазіцыі»: цэнтр — перыферыя. Правільнае разуменне важнасці гэтага паняцця — ключ да раскрыцця сутнасці цывілізацыі і працэсаў развіцця. Ад племянной эпохі да эры канца актыўнага процістаяння паміж капіталізмам і «камунізмам» узвышэнне і заняпад адыгрывалі ролю рухавіка-рэгулятара таксама і міжнацыянальных адносінаў. І мацнейшыя — пераможцы, і слабейшыя — пераможаныя стваралі этнацэнтрычную гістарыяграфію. У аснове сучасных сусветных і рэгіянальных супярэчнасцей ляжаць, верагодна, розныя праявы дамінавання і эксплуатацыі цэнтрамі перыферыі, асабліва ў сферах эканомікі і культуры.

Беларусь, якая воляй лёсу апынулася на перыферыі еўрапейскай цывілізацыі — у адным з месцаў упадку і кантролю з боку «цэнтраў», уяўляе сабой цікавы прыклад адаптацыі «каланіяльнага народа». Пытанне ставіцца наступным чынам: наколькі Беларусь упісваецца ў еўрапейскую цывілізацыю, наколькі абгрунтавана **вяртанне** да «страчаных» еўрапейскіх каштоўнасцей, ці з'яўляюцца яны сапраўды еўрапейскімі і, адпаведна, дастаткова гуманістычнымі, каб абапірацца на іх пры адраджэнні беларускай нацыі?

Сацыяльна-палітычныя, эканамічныя і культурныя арыентацыі, выбар каштоўнасцей, або дакладней — іх сінтэз (з якіх спадчын выбіраць?) — з'яўляюцца выключна важнымі пры вызначэнні і распрацоўцы мадэляў развіцця.

Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» распачаў рубрыку «Беларускі шлях», дзе рознымі аўтарамі прапаноўваюцца канцэпцыі далейшага развіцця Беларусі з улікам гістарычнага вопыту нашага народа. Адзначаючы месца Беларусі паміж Захадам і Усходам Еўропы, яны тым не менш не ставяць пад сумненне «еўрапейскасць» беларусаў. Валянцін Акудовіч («Пошукі страчанага вобраза», «ЛіМ», 8.3.1991) найбольш коратка і ўдала сфармуляваў еўрацэнтрычныя адносіны беларусаў да Еўропы: «Яны нарадзіліся ў лоне Еўропы, доўгі час актыўна ўдзельнічалі ў яе фарміраванні і самі як народ былі сфарміраваны ёю». Падобныя трактоўкі, калі б яны былі акадэмічна-дыскусійнымі або проста «навукова-папулярнымі», не выклікалі б вялікай заклапочанасці, але яны адлюстроўваюць пэўную тэндэнцыю, для якой падбіраюцца факты: «палітычная ідэя «вяртання» Беларусі ў Еўропу, дзе некалі яе народ, па праву стваральніка адной з буйнейшых еўрапейскіх дзяржаў, займаў пачэснае месца, ідэя Беларусі як звычайнай еўрапейскай краіны, падобная да Аўстрыі, Венгрыі, Чэха-Славакіі, атрымлівае сёння ўсё большае распаўсюджванне і, падобна на тое, папулярнасць».

З шматлікіх палітычных «пракламацый і дэкларацый» выяўляецца, што ў грамадстве пераважае апалогія еўрапейскага шляху. Але, несумненна, існуе іншы погляд — погляд меншасці, якая мела магчымасць аналізаваць негатыўныя бакі «еўрапеізму». Што зрабіла з беларусамі Еўропа, якімі іх сфарміравала, куды іх заклікаюць вяртацца?

Калі беларусы былі сфарміраваны як народ Еўропай, то гэта само па сабе характарызуе гэты кантынент.

«Стартавыя» ўмовы беларусаў былі не горшыя, чым у іншых старажытных еўрапейцаў. Рух крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў на цяперашнія землі Беларусі прымусова змяняў лёсы мясцовых балтаў, але прычыны, «матывы» перасялення дабеларускіх плямёнаў невядомыя. У любым выпадку гэта выцясненне аўтахтоннага насельніцтва яшчэ не было вялікадзяржаўнай палітыкай; такія ж працэсы рассялення — змянення этнічных тэрыторый — назіралі паўсюль на Зямлі. Далей вышэйшыя класы «рускіх» разам з літоўскімі імкнуліся развіваць сваю краіну па-еўрапейску: стварэнне цэнтралізаванай дзяржавы, прыняцце і распаўсюджванне хрысціянства, тэрытарыяльная экспансія — Вялікая Літва. У палітычнай барацьбе за ажыццяўленне гэтай мэты беларуская знаць губляла свой народ і ў прамым, і ў пераносным сэнсе: людзі гінулі ад цяжкіх умоў жыцця і бясконцых войнаў; яны таксама «адставалі ў сваім развіцці»: заставаліся са сваёй «мужыцкай» мовай, кансервавалі народныя звычаі, страчвалі гістарычную перспектыву. З вялікім сумам, падобным на роспач сучасных расіян, якія шкадуюць аб страце Аляскі, беларускія аўтары сцвярджаюць, што не Літва, а Масква змагла стварыць больш драпежніцкую дзяржаву, аб'яднаўшы больш «рускіх земляў». Два суседнія еўрапейскія народы, якія не здолелі ўдзельнічаць у падзеле свету (за выключэннем той жа Аляскі) — захопе калоній у 16—18 стагоддзях, — знайшлі глебу, дзе яны маглі задаволіць каланізатарскія схільнасці. Так нацыя, якая знаходзілася «ў самым цэнтры Еўропы», не толькі страціла «чыста еўрапейскі статус», але і атрымала унікальны шанц далучыцца да супольнасці нееўрапейскіх народаў.

Далейшая гісторыя паказала, што «ўсе Еўропы» — як бліжняя — з усходу і захаду, так і дальняя — жадалі ад Беларусі аднаго: максімуму пакорлівасці, мінімуму актыўнага праяўлення самабытнасці і супраціўлення (часам — і таго, і другога, але выключна для аслаблення магутных суседзяў), увогуле як мага менш перашкод пры ажыццяўленні геапалітыкі. Беларусаў проста імкнуліся прыбраць са шляху прагрэсу, іх нават не спрабавалі цывілізаваць.

Тым не менш, як аказваецца, і трагічны вопыт цяжка ўсведамляецца і многіх нічому не вучыць. Гісторыя развіцця еўрацэнтрычнай думкі ў Беларусі патрабуе дэтальнага даследавання. Такія з'явы, як палемічная літаратура або творчасць ранніх пісьменнікаў-дэмакратаў, былі праявамі «ўнутрыеўрапейскай» барацьбы каштоўнасцей. Пазней прадстаўнікі Беларусі прынялі ўдзел у дыскусіі заходнікаў і славянафілаў. Распаўсюджваліся, у прыватнасці, і антызаходнія байкі, і гурткі прыхільнікаў заакіянскай цывілізацыі. Мелі месца скептычныя думкі пра выраджэнне тагачаснага еўрапейскага чалавека, а Беларусь прыводзілася як прыклад культурнай дэградацыі, падобнай да ўпадку развітых індзейскіх грамадстваў. Беларускія падарожнікі 19 ст. так і не здолелі пазбавіцца ад месіянскіх, цывілізатарскіх поглядаў на нееўрапейскія народы, хаця яны рабілі візіты да такіх жа «негістарычных» людзей, братоў. У канцы 19—пачатку 20 ст. асобныя беларускія этнографы пачалі пераадольваць еўраазіяцкую абмежаванасць (дзякуючы якой іх калегі-гісторыкі крыху раней зусім не пакідалі ў гісторыі месца для індзейцаў і т. п. «дзікуноў»), хаця выразы «дзікун», «тубылец», «адсталая раса» працягвалі ўжывацца. Толькі ў савецкі час выразна выявіліся сімпатыі да нееўрапейскага насельніцтва каланіяльных і паўкаланіяльных краін, і еўрапейскую цывілізацыю пачалі метадычна асуджаць за шматлікія злачынствы перад астатняй часткай чалавецтва. Ідэя своеасаблівай «бальшавіцкай» цывілізацыі, якая не з'ўляецца ўласна еўрапейскай, а развіваецца новым, камуністычным шляхам, які забяспечвае павагу і роўнасць правоў «адсталым» народам, была важнай і цікавай, але рэалізоўвалася дрэннымі выканаўцамі. Жорсткія рэпрэсіі і застой зрабілі немагчымай свабодную ідэятворчасць.

Афіцыйны савецкі камунізм адмаўляецца ад салідарнасці з «каланіяльнымі народамі» як ад неактуальнай праблемы, але не сыходзіць на расісцкія пазіцыі. У той жа час ідэалагічныя лідэры пэўных патрыятычных рухаў, засвойваючы парадаксальны вопыт у галіне беларускай даваеннай эміграцыі, робяць няўдалыя выказванні. У многіх публіцыстычных выступленнях беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў заўважаецца недахоп «сусветнай» арыентацыі і самааналізу. Як вынік — супярэчлівасць думкі, дуалізм.

Адзін аўтар развенчвае маральнае аблічча польскай каталіцкай і рускай праваслаўнай царквы, што асабліва праяўляецца ў іх процібарстве, але чамусьці заклікае да развіцця беларускага каталіцызму і праваслаўя, быццам з прыведзеных ім жа фактаў не вынікае сутнасць гэтых рэлігійных напрамкаў. Знаёмства з нееўрапейскім матэрыялам яшчэ больш узмацніла б гэты скептыцызм. Дзіўным уяўляецца настойлівае ўжыванне ў якасці нацыянальнага сімвала «Пагоні». Выява коннага рыцара з мячом зусім не вяжацца ні з «базавымі» рысамі беларускага этнасу, ні з тэндэнцыяй гістарычнага лёсу беларусаў. Агрэсіўны, канкістадорскі сімвал для міралюбівага і шмат у чым бездапаможнага народа? Лагічна б было пашукаць іншую эмблему, якая б сімвалізавала абарону і заклікала да нацыянальнай кансалідацыі. У атмасферы захопленасці заходнімі мадэлямі раздаюцца і слабыя галасы крытыкі дэнацыяналізацыйных і культурна-імперыялістычных тэндэнцый у «адзінай цяпер вялікай дзяржаве» — Амерыцы. Усведамляючы, што іншы плавільны кацёл, Еўропа, таксама выпрацоўвае сярэднееўрапейскі стандарт, нівеліруючы культурную самабытнасць, тым не менш многія звязваюць адраджэнне Беларусі з вяртаннем у агульнаеўрапейскі дом. Пры гэтым, аднак, усё пазнаецца ў параўнанні: «Для Расіі адраджэнне —

## Створаны камісіі па літаратурнай спадчыне

### Міхася Барэйшы

У склад камісіі па літаратурнай спадчыне М. Барэйшы, створанай сакратарыятам СП Беларусі, увайшлі: І. Жарнасек (старшыня), Л. Баршчэўскі, Г. Кірылаў, Г. Барэйша.

### Міхася Дубянецкага

Камісія па літаратурнай спадчыне М. Дубянецкага створана ў складзе: С. Андраюк (старшыня), У. Арлоў, А. Разанаў, Л. Дранько-Майсюк, М. Дубянецкая.

### Язэпа Семяжона

Склад камісіі па літаратурнай спадчыне Я. Семяжона наступны: В. Рагойша (старшыня), Я. Скурко (Максім Танк), В. Ніфаровіч, Н. Семяжонава.

## «БАЙРАМ»—ПА-ТАТАРСКУ СВЯТА

«На зямлі высакароднага, зычлівага і працавітага народа — беларусаў—жыве жменька татараў. Іх так мала, што ў звычайных даведніках колькасць не пазначаецца, бо складае каля 0,12 працэнта ад насельніцтва Беларусі», — так пачынаецца першы выпуск квартальніка «Байрам», падрыхтаванага рупнасцю татарскага грамадска-культурнага аб'яднання Мінскай вобласці «Аль-кітаб» («Святая кніга»).

Варта перачытаць, беларусе, першыя радкі яшчэ раз. У іх —шчырая ацэнка сумеснай гісторыі, падзеленай пароўну паміж татарамі і беларусамі; у іх прызнанне годнасці адзін аднаго, у іх — гатоўнасць далейшага супрацоўніцтва. У іх і звычайны чалавечы боль (іх так мала», «жменька»), што не можа не выклікаць спагады да татарскага народа.

Мы ведаем штосьці з мінулага, пра гісторыю пражывання татараў на Беларусі. Мы ведаем, што ў Мінску, Капылі, Наваградку, Вілейцы, Лідзе, Смілавічах, Іўі жылі вякамі татары. Мы ведаем Татарскія агароды, Татарскі канец (г. зн. ускраіну) у Мінску. Татарскія завулкі былі ў Слоніме, Бярозе, у Гародні, Ваўкавыску, Ляхавічах... Мы ведаем паэта Андрэя Александровіча — татарына; аўтара школьных падручнікаў Алеся Александровіча — татарына; філолага, прафесара Сцяпана Александровіча — таксама татарына.

Гісторыя складаная, гісторыя цікавая, тым больш гісторыя той ужыўчывасці, якой могуць пазайздросціць многія краіны і народы. Татары адчувалі сябе тут, як дома. Ні радка, ні слова ці паўслова скаргі, нават намёку на крыўду на беларусаў не сустрэнеш, чытач, на старонках унікальных татарскіх рукапісных кніг, напісаных арабскім пісьмом па-беларуску, — Кітабаў. Прачытаўшы больш за дваццаць такіх, — сведчу! Беларусы татарам не ворагі, беларусы татарам не шкодзілі. Прыгожае, далікатнае супрацоўніцтва, у выніку якога адны вучыліся ў другіх, адны аберагалі другіх і наадварот. Гэта дзіва, але беларускасць, валоданне беларускай мовай жыве ў асяроддзі інтэлігенцыі татарскай нацыянальнасці больш моцна, чым у іншых мясцовых дзеячаў, не гаворачы ўжо пра «інтэрнацыяналістаў». «Мы карыстаемся даўно нам роднай беларускай мовай...» — піша ў прадмове да квартальніка Якуб Якубоўскі. Карыстаемся беларускай мовай... Можа быць, па традыцыі, можа быць, у знак удзячнасці і павагі да беларусаў. Таму і «Байрам» — на беларускай мове.

Чытачу, які захоча бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй пражывання татараў на Беларусі, са спадчынай татараў, пачаць знаёмства трэба з артыкула гісторыка Ібрагіма Канапацкага «Беларускія татары: мінулае і сучаснасць». Аўтар прыводзіць шмат цікавых звестак пра сваіх продкаў, паведамляючы, напрыклад, такое: татары настолькі зжыліся з мясцовым насельніцтвам, што ў XIV—XV ст. нават нярэдка выступалі супраць сваіх адзінаверцаў, абараняючы інтарэсы беларусаў. Цікавы факт: у Грунвальдскай бітве супраць крыжакоў удзельнічала каля 40 тысяч татараў. Вядома з ордэнскіх хронік, што вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген загінуў у бітве ад рукі татарскага хана Багардзіна.

Асобныя старонкі «Байрама» прысвечаны выдатнаму сыну крымска-татарскага народа Ісмаілу Гаспарынскаму, чыё 140-годдзе з дня нараджэння адзначалася ў гэтым годзе. Пяру І. Гаспарынскага належыць манаграфія «Рускае мусульманства», дзе ён запісаў, між іншым, і такое: «...літоўскі (г. зн. беларускія.—**В. Н.**) татары — найлепшыя татары Расіі і стаяць на чале мусульманст-

Чым больш яна жыла ў пакоі Чалавека, тым больш нязноснаю была яе пакута ад адзіноты. Змяя забралася ў кніжную шафу і выбрала самае зручнае месца, каб можна было адтуль глядзець і глядзець на Чалавека. Калі ён уставаў і блізка падыходзіў да шафы, ёй хацелася вырвацца з абдымкаў драўляных кратаў і ўпасці да яго ног. Але Чалавек паварочваўся спіною, нерухома стаяў пасярод пакоя, закінуўшы галаву. Вочы яго закрываліся, а рукі моцна-моцна сціскалі скроні.

Чалавек думаў пра нешта сваё. Але для каго, для чаго ён жыў? Аднойчы Змяя асцярожна забралася на яго стол і ўбачыла шмат спісанай паперы. Адны аркушы ляжалі роўна, акуратна складзеныя ў стос, другія, падкрэсленыя і недапісаныя, прыціскаліся да яго. Змяя ўбачыла доўгія вострыя літары, якія чорнымі ланцужкамі ўпіваліся ў паперу. Яна не магла разумець напісанага, але здагадвалася, што там было нешта важнае для Чалавека. Змяя слізганула на падлогу і раптам ёй захацелася ў ложак Чалавека, які ён зусім нядаўна пакінуў. Яна лёгка дабралася да падушкі, што яшчэ хавала цеплыню Чалавека. Упершыню Змяя не скруцілася колцам, а падобна Чалавеку, выцягнулася ўздоўж ложка і заплюшчыла вочы. Ёй было спакойна, яна нібы адчувала, што ён тут, побач, саграве яе сваім дыханнем, а рукі песцяць яе цела. Змяя мацней і мацней прыціскалася да падушкі — ёй стала лёгка і яна забылася ў марах.

Змяя не чула, калі прыйшоў Чалавек. Чалавек заўважыў Змяю. Ён асцярожна зняў са сцяны стальную шаблю і са ўсяго размаху секануў бліскучым жалезам па каралях Змяі. Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла Чалавека, упэўненага, суровага, такога, якога яна сустрэла першы раз ля куста ружы. Ён стаяў апусціўшы рукі і холадна разглядаў кавалкі загубленай істоты.

Змяя сабраўшыся з сіламі, прашаптала: «Чалавек»...

Чалавек прашыпеў: «З-змяя»...

---

— Глядзіце, глядзіце: а дуб — трупехлы! — затрашчала храбусткая крушына.

Тхнула тленам. Пудзячыся яркіх успышак, з ашчэранага дупла звергнутага апекуна шуганула слізкае гадаўё.

— О! Каму ж мы давяраліся, каму білі паклоны столькі часу! — шаляснуў вешшам ядловец. — Волат жа быў гнілы!

## Буслянка

На засохлай скрозь абпілаванай таполі сярод пакінутых знарок рапулік грувасцілася бухматая буслянка. Цыбатыя рупліўцы адштукавалі яе прасторнай. І недарэмна: кожнай вясны ў ён паяўлялася не менш чатырох дзюбатых дзетак.

Так вялося заўсёды. Але вось гадоў колькі ўжо невядома чаму гаспадары сцураліся вотчыны. Тут цяпер знайшлі сабе прытулак вераб'і, фацэтная парачка гракоў, шпакі, сініцы. Жылі і тыя і другія бесклапотна і ні аб чым не дбалі.

Між тым гаспода непрыкметна гібела і хутка павінна была разваліцца.

— Сябры! — схамянуўся, закаркаў аднойчы грак. — Хопіць бяздзейнічаць! Трэба нам патурбавацца нарэшце! — забіў трывогу. — Рушыцца наша дамоўка!

— Падправіць след! — бойка зачырыкалі кемныя вераб'і.

— Адрамантаваць, паднавіць неабходна! — закрычалі шпакі. — Досыць чакаць!

Завадатар пачычырыў кіпцямі патыліцу і важна зазначыў:

— А ці варта аўчынка вырабу? Дужа ж запушчанае, непрывабнае гняздо. Мне здаецца лепей бы наогул перабудаваць яго!

— Правільна! — гатоўна заціўкалі сініцы. — Залатыя словы! Мы — за!

Узгрэтыя нязвыклай прапановай, птушкі гармідарам прывінуліся крушыць, расцягваць роднае селішча.

Тры дні падалі цяжкія ламачыны і галіны, сыпаліся трасцінкі, ляцела пер'е ды пух.

Наступным непагодным ранкам, калі рэзкі парыў навальнічнага ветру абрынуў старасвецкае кола — аснову буслянкі, грак урачыста ўсклікнуў:

— Час узводзіць жаданую харому!

Узняўся вэрхал.

— За справу, браткі! Не пашкадуем сябе! Здзівім белы свет!

Апантана выхвалякі замітусіліся, затрэпалі крыллем.

— А як пачынаць?! — раптоўна заціўкалі вераб'і. — З чаго брацца?

— І праўда?! — разгубіліся шпакі.

Імгненна ўсе суняліся, змоўклі. Толькі зараз яны ўбачылі, што не мелі ні здольнасцяў, ні сілы.

---

**Раман ТАРМОЛА**



●

Запытайце ў ветра пра волю
У чыстым полі...
Ён падыме на крыллях вас!
А пра тое ж спытайце ў цясніне —
Вецер вочы на вас не падыме,
Ён застогне ў адказ...

●

Людзей у нас не шкадавалі.
На смерць ішлі,
як у кіно.
Мы дзесяць жыццяў аддавалі
За ворага
жыццё адно.
У гэтай справе без падману
Мы ўсё рабілі на-гара —
Перавыконваліся планы
Пад ашалелы крык «Ура-а-а!»
Аб чалавеку вечны клопат
Быў найгалоўны
толькі ў нас:
Мы ратавалі то Еўропу,
То цэлы свет...
З дазволу мас...
Героі і камедыянты,
Мы не баяліся маны,
На ўсё ішлі з чырвоным бантам,
Бо ўсё
не мела ў нас цаны.

## Лёс генія

Хутчэй за ўсё
мы ціхенька памром,
Як мышы ў норах,
як у казцы гном...
І толькі ён,
раскацісты як гром,
Памрэ, спазнаўшы
ганьбу
і калецтва...
О, генія размова з чалавецтвам
Ніколі не канчаецца дабром.

●

Мне так добра ляжаць
У радзімы пад абразамі,
Без маршчын, не ў слязах,
Не набожны не праведны самы.
Час даўно мяне згроб...
Стала меней яшчэ адной лыжкай.
І высокі мой лоб
Адзінока сумуе ў зацішку.

Ты, радзіма, пагост.
Мой паклон — за куток, за трывогі,
Што я, ў поўны свой рост
Магу выпрастаць думкі і ногі...

## Тысячагоддзе

Тысячагоддзе званы разгайдала.
І абнавіўся царкоўны гмах.
...Штось зледзянела. Нешта растала
І пры саветах,
як пры царах.

Роздуму крыж адно
з сэрца не зняты,
Ён узвышае,
ён і гняце:
Бога альбо дзяржавы ягняты —
Усе яны поўзаюць на жываце...

## Выздараўленне

Нарэшце поступ стаў звычайным крокам,
Гігантаманію ўзяліся мы лячыць...
Дух узлятае
не вышэй за кроквы
На зрубе
пасярод начы.
Мы перасталі пэцкаць чорнай сажай
Зямлю чужую
...на сваім двары.
Апошні раз
паэт апошні спляжыў
Амерыку
за тое, што «адкрыў»...
Па-людску мы жыццё спраўляем дома,
Нас пад сябе
адзін усіх не згроб...
Выздараўлення гэтага сімптомы
Нас адлучаюць
ад былых хвароб.
Не кінуцца б адно
ізноў у крайнасць,
Кашулю на сабе не рваць,
Ды ідалаў гуртом
і шматэкранна
Прад цэлым светам
не каранаваць.

●

У вёсцы кінутай... Наскрозь
Прапахлай сырасцю і вапнай,
Конь тыцнуўся мне ў шыю храпай...
І вырвалася з губ: «Кось-кось...»

Які там конь... Здзічэлы вецер
На пару з восеньскім дажджом
Ляцеў і мокры твар свой выцер,
І ў стог уплішчыўся вужом.

І я, вядома, тут разважыў,
Што стог сатлелы можа грэць,
Што вецер дрэннага не скажа,
Як я рашуся пасядзець.

Перад вачыма агарод,
Гнілая хата, кола, кошык
І душы... Душы тут не з дошак,
Але здаецца мне — з іх плот.

Ён так гайдаецца-уздыхае,
Пытаецца нібы: «А ўсё ж...
За што нас, Госпадзі, караеш!..»
І плачам — вецер, я і дождж.

●

Пастаў, Надзея, і маёй матулі свечку...
Звяжы, хоць ты, мяне
з маім карэннем,
Бо сам царкву я абмінаю вечна,
Цяпер, што ні зраблю ўжо —
са спазненнем.

## Перспектыва

Вялікая будзе бяда
Як вырасце з левых і з правых
(Ён мае на гэта права)
Вялікі савецкі Балда.

Ён біць жа пачне заўжды
Не лоб, а высокі розум,
Ён прахрыпіць нецвяроза:
«Трэба нам правадыр...»

О, нашая праўда не раз
Падскоквала ўжо да столі.
Мы сёння крычым: «Даволі!»
Ды гэта сённяшні час...

●

Як разыходзяцца пласты
Былое звязкі пакаленняў,
Дарэмна кідацца ў калені
З уціхамірваннем пустым...

Паможа справе
справа тут,
Рашучы,
але мудры ўчынак.
І перахрысціцца Айчына,
І цвёрда стане ўсё на грунт.

●

Што каму... Наканаваны ўцёкі
Вам... А нам на прывязі сядзець,
У сябе глядзець — не ў край далёкі...
Пра запас не грошы — думку мець.
Па сабачы жыць... Але сабачым
Лёс нялёгкі свой не называць.
Хто спрадвеку шчасцейка рыбачыць,
Хтосьці ўмее толькі выглядаць...
Адтаго і берагу Айчыны
Пусткаю не быць, уцекачы!
Гэтаму ніколі не вучылі.
Гэтаму ніяк не навучыць.

---

**Эдуард АКУЛІН**



●

Я ўрастаю у новы дзень,
як у лёд урастае рыба...
Саркафага шкляная глыба
размяжуе святло і цень.

Я ўрастаю у новы год
непазбежна і незваротна,
не шкадуючы дзён самотных,
што згарэлі, нібы бікфорд.

Я ўрастаю у новы век,
ахвяруючы ўсё Учора.
Так блакітныя вены рэк
урастаюць у сэрца мора.

## Эскіз

Жыццё за ваконным шклом...
Сціхотна трапечуць клёны.
Нібыта ў нямым кіно,
бязгучна крычаць вароны.

Нячутна праплыў цягнік,
зліваючыся з блакітам...
Жыццё за вакном — эскіз,
накрэслены і забыты.

## Дождж

Плывуць дажджавікі,
сінеючы ад золі...
Плыве асфальт, які
не плыў дасюль ніколі.

Плывуць з-пад ног масты,
плыве трава з газонаў.
Плыве людскі гальфстрым
прамоклых парасонаў.

І косы з-пад рукі
сплылі табе на плечы.
І дзень плыве, які
стаў напалову вечар.

## Аднойчы

Аднойчы ўвесну, нібы лёд,
ад плёсаў-плошчаў непрытульных
асфальт пачне свой крыгаход
між берагоў прыціхлых вуліц.

І людзі выйдуць паглядзець
на небывалае здарэнне,
і стануць душамі святлець,
і прагнуць самаачышчэння.

І разняволены праспект,
ва ўсёй сваёй красе шырокай,
блакіт пралесак панясе,
адлюстраваны ў сотнях вокан.

## Самота

Заімгліла туманам, пакрыла слатой
восень нашага лета каханне...
Я зрабіўся інакшым, ты стала не той,
як належнае — стрэлі растанне.

Ды аднойчы, хутчэй безвыходнай зімой,
не здалею пазбегнуць напасці:
хоць званком тэлефонным у спальні
тваёй
на самоце пабыць каля шчасця.

## Адлюстраванне

Усе пуцявіны прыводзяць у неба.
Гадую я крылы для грэшнай душы.
Калі адыходзяць — адзінае трэба:
убачыць пялёстак агню на свячы.
Пялёстак убачыць агню на свячы —
адзінае трэба, калі адыходзяць...
Я крылы гадую для грэшнай душы.
Усе пуцявіны ў неба прыводзяць.

А шлях той апошні, як чорная рэчка,
пакрочу — сябры, запаліце мне свечку.

## Малітва

Божа літасны, трыадзіны,
Ты літанне маё пачуй.
Не пакінь у бядзе Радзіму —
уратуй.

Уратуй мой народ пакутны,
зберажы ад ліхога Край...
Пасяліцца ў душы Іудзе —
мне і сыну майму не дай.

Барані ад спакусы грэшных,
абміні сваёй карай злых...
Божа праведны, хай бязмежнай
будзе ласка ад слоў тваіх.

## Рытурнэль

Скруха
загарыцца ў сэрцы і патухне
памяці ссівелай завірухай.

Памяць
азавецца рэхам у тумане
і неразгаданая растане.

Сэрца
на самоту болем азавецца,
ды не скамянее ў паняверцы.

## Туюгі

●

Паўднёвае сонца лавінай з гары
сцякала — ты мовіла:—любы, згарым,—
і першай сігнула насустрач абвалу
снапоў залатых што ліліся з гары.

●

Нялюбай цела вабнасць-чары
я піў дадна світальнай чарай...
Ды дзень падкраўся, нібы кара,
за грэх астатні янычара.

# «ТЫСЯЧА ПРЫЧЫН, КАБ ЗАКАХАЦЦА...»

**Ніяк не думаў, што актрыса Рэспубліканскага тэатра юнага гледача Вера КАВАЛЕРАВА так доўга будзе рыхтавацца да гэтага інтэрв'ю. Дваццаць гадоў на сцэне, больш за семдзесят пяць роляў у самых розных спектаклях, пэўна, прывучылі ўзважваць кожнае слова...**



— Вера, вы, відаць, чалавек сціплы...

— Я не магу так сказаць. Я — «араты», я занятая толькі работай. Ніколі не збірала пра сябе артыкулаў ці рэцэнзій. Тым больш, часам такога напішуць...

— Вы, здаецца, «тэатральных універсітэтаў» не канчалі?..

— Я скончыла больш за «універсітэт» ці тэатральны інстытут. У дзяцінстве дзесяць гадоў займалася ў тэатральнай студыі пры Беларускім тэлебачанні. Кіравала ёй цудоўны чалавек і выдатны педагог Клаўдзія Акімаўна Казакова. Адтуль выйшла на вялікую сцэну шмат людзей, у тым ліку і мае цяперашнія калегі Ю. Кухаронак, У. Макараў, І. Андрэеў, які, дарэчы, працуе дырэктарам ТЮГа. Яе «школу» відаць і цяпер: калі б я і не ведала, што хтосьці менавіта ейны вучань, дык усё роўна пазнала б. Нават па тым, як акцёр «выцягвае» з сябе гук, як яго чуваць у любым кутку залы... Пасля студыі спрабавала пайсці ў тэатральны інстытут. У мяне спыталі там: «А чаму ж мы вас вучыць будзем? Вы ўжо актрыса». І я пайшла працаваць... у атэлье швачкай. І працавала б, мабыць, калі б актрыса Л. Цімафеева не прывяла ў ТЮГ. Тады дырэктарам ТЮГа быў Артур Вольскі. Вельмі прыязна сустрэў мяне і... залічыў у штат. Потым спрабавала пайсці ў рэжысуру. Паступіла ў Мінскі інстытут культуры, але не давучылася. Зразумела, што ніколі б не змагла звязаць свой лёс з самадзейнасцю.

— Вы прыйшлі ў ТЮГ каля дваццаці гадоў таму назад і, мабыць, яшчэ заспелі тых, хто закладваў падмурак тэатра...

— Я прыйшла ў ТЮГ, калі тут яшчэ былі людзі «ад Мазалеўскай». Як яны ставіліся да тэатра! Да мяне, маладой актрысы! Ніколі не забудуся, як Леў Пракоф'евіч Міхайлаў вучыў мяне: «Дзяўчынка, падглядаць праз заслону нельга. І чапаць яе нельга». Ці часам пасля спектакля казаў мне: «Дзяўчынка, хадзем пагамонім». І колькі ў гэтым было добразычлівасці, дабрыні... Цяпер ужо няма гэтага. Цэлая плеяда знікла. А моладзь да ветэранаў не прыслухоўваецца...

— Апошнім часам пра ТЮГ шмат пісалася і не заўсёды ва ўхвальных танах... Чаго, на ваш погляд, бракуе роднаму тэатру? Якім бы вы хацелі яго бачыць?

— Цяжка сказаць. Тут такі клубок... Трэба, перш за ўсё, пазбавіцца злосці. Не можа злосны чалавек несці мастацтва дзецям. А недахопы? Іх, упэўнена, трэба пачынаць шукаць перш за ўсё ў саміх сябе. Акцёру трэба сумленна ацаніць свой прафесійны ўзровень. З боку. Але тады, магчыма, камусьці прыйдзецца шукаць іншую прафесію.

— Тым не менш, існуе меркаванне, што ў ТЮГ ідуць працаваць альбо самаадданыя энтузіясты, альбо тыя, хто не трапіў у купалаўскі ці Рускі тэатр.

— Я спрабавала працаваць у «дарослым» тэатры. У Львове. Але не змагла. У нас і праўда спецыфічны тэатр. У адрозненне ад «дарослага» тэатра ў нас немагчыма абстрагавацца ад залы і іграць толькі сваю ролю — усё немінуча сапсуецца і зблытаецца. Бывае, спектакль ад спектакля адрозніваецца вельмі. І як таму гідраакустыку, акцёру трэба ўвесь час трымаць вуха востра. А травесці — асабліва. Глядач жа граматны. Перад спектаклем ён чытае ў праграмцы: «Міколка — В. Кавалерава». Дарослая цётка. Але праз тры хвіліны я прымушу яго паверыць, што я сапраўдны Міколка ці Чыпаліна. Пакуль што — ашукваю... А твар? Колькі яшчэ пратрымаецца мой твар? А перадаць навуку травесці няма каму... Гэтаму не вучаць. Я шмат чаго збірала па каліўцу. У травесці кароткі век, але веданне і майстэрства прыходзіць занадта позна. Хто будзе рыхтаваць травесці? Не ведаю ніводнай, якая б выпусціла курс у інстытуце.

— Дарэчы, як сталася, што вы сталі травесці? З гэтым амплуа нараджаюцца ці становяцца?

— Я прыйшла ў тэатр не травесці, а хара́ктарнай актрысай. А перайшла ў новае амплуа амаль выпадкова, дзякуючы кінастудыі, дзе мне аднойчы прапанавалі агучыць хлопчыка. Рос сын. Я гуляла з ім у футбол, сябравала з яго сябрамі. Была для іх «сваім хлопцам». І так сталася, што асноўнай работай для мяне была... вуліца. Гэта тое, што падсілкоўвае мяне як актрысу. Хлопчыкі для мяне больш зразумелыя, як дзяўчаткі. Я і да гэтага часу не адчуваю сябе дарослым чалавекам. Сябры сына ўспрымаюць мяне як свайго равесніка. Ды і я, шчыра кажучы, не вельмі арыентуюся ў «дарослым» жыцці. У мяне ўвогуле няма нічога ў гэтым жыцці, акрамя дарослага сына і тэатра.

— І тэатр аддзячыў вам за самаадданасць? Вы — вядучая актрыса, адна з тых, на кім трымаецца рэпертуар...

— Так, у мяне шчаслівае творчае жыццё. Мяняліся рэжысёры, але ўсе, як ні дзіўна, бачылі мяне як актрысу. Ведаеце гэтыя размовы ў «грымёрках»: «Ах, новы галоўны!..» Я заўсёды спакойная. Бо ўпэўнена: акцёра ўсё адно відаць. І як бы рэжысёр ні ставіўся да канкрэтнага акцёра, ён не вораг самому сабе, свайму спектаклю.

— Відаць, не ўсе вашы калегі падзяляюць вашы меркаванні...

— А мяне ў тэатры не любяць.

— ?..

— За што? Мабыць, за шчаслівы творчы лёс. Але клянуся сваім дзіцем, ніколі

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

# ПОМНІК БУДЗЕ... АЛЕ ЯКІ?

## Яшчэ раз пра «афганскі» мемарыял у Траецкім прадмесці

У газеце «Добры вечар» за 1 ліпеня пад загалоўкам. «Я веру. Але ці будзе помнік?» было надрукавана інтэрв'ю з загадчыкам аддзела ЦК ЛКСМБ Анатолем Каралёвым. Публікацыя датычыла лёсу помніка загінуўшым у Афганістане, які мяркуецца пабудаваць у Мінску. На думку апарату ЦК ЛКСМБ лепшае месца для помніка — Траецкае прадмесце.

З інтэрв'ю вынікае, што праект мемарыяла ўжо зацверджаны, месца для яго канчаткова вызначана і калі б не супрацьдзеянні з боку ГалоўАПУ, Мінгарсавета і газеты «ЛіМ», памяць «афганцаў» даўно была б найлепшым чынам ушанавана. Я разумею жаданне т. Каралёва як мага хутчэй пабачыць у Траецкім рукатворныя бетонныя горы, можа, крыху ніжэйшыя за Мамаеў курган у Валгаградзе, але ніяк не меншыя за цэнтральны манумент у Брэсцкай крэпасці. Але пры гэтым не варта выдаваць уласны густ і ўласныя намеры за грамадскую думку. Бо і адносна месца для помніка і адносна ягонай ідэйнай канцэпцыі існуюць самыя розныя меркаванні, і звесці іх да кампрамісу немагчыма. Прычым тыя, хто займаецца пытаннямі гарадской эстэтыкі не на дылетанцкім, а на прафесійным узроўні (архітэктары, мастакі, скульптары, сацыёлагі) ідэю «афганскага» мемарыяла ў Траецкім не ўхваляюць. Цікава, што і праект, які прыйшоўся даспадобы ЦК ЛКСМБ, дасланы на конкурс з Украіны і зроблены людзьмі, якія, магчыма, ўвогуле ніколі не бывалі ў Мінску.

Як мемарыял у Брэсце не столькі ўвекавечыў гераізм абаронцаў, як стаў помнікам своеасабліваму мастацкаму густу П. Машэрава, так і плануемы побач з карчмою і камісійнай крамай мемарыял «афганцам» можа стаць для будучых пакаленняў дакументальным сведчаннем культурнага ўзроўню камсамольскай наменклатуры часоў «перабудовы». Магчыма, гэта разумеюць і тыя, ад каго залежыць фінансаванне праекта, і таму не спяшаюцца выпісваць чэк на тры мільёны рублёў (столькі будзе каштаваць будаўніцтва «мамаева кургана» ў Траецкім толькі на першым этапе).

Банк, па словах т. Каралёва, не дазваляе ЦК ЛКСМБ раней часу здымаць грошы з рахунка, куды ідуць ахвяраванні на помнік — так, маўляў, цалейшыя будуць. Намеснік міністра фінансаў БССР на просьбу «раскашэліцца» прапануе (у чыста камсамольскім стылі) «актывізаваць работу па правядзенні камсамольскіх суботнікаў». Мне зразумелае абурэнне т. Каралёва: нібыта шаноўны намеснік міністра не ведае грамадскіх настрояў — хто ж гэта будзе задарма працаваць па закліку ЦК ЛКСМБ, калі памянёная арганізацыя на прыкладзе старэйшых таварышаў з КПСС—КПБ трывала становіцца на рэйкі прыватызацыі і камерцыялізацыі, калі камсамольская наменклатура не выпусціць з кулака ніводнага рубля з мільёнаў, заробленых на друкаваных выданнях, гасцінічных комплексах, арганізацыі замежнага турызму і ўрэшце — з камсамольскіх узносаў? Тут хочацца разам з т. Каралёвым выгукнуць: «Нельга быць такім цынікам, таварыш намеснік міністра!»

І камісія Мінгарсавета па культуры, ахове і адраджэнні культурна-гістарычнай спадчыны «дурыць галаву» (выраз т. Каралёва): Траецкае прадмесце — комплексны помнік горадабудаўніцтва, у гэтым раёне новабудоўлі магчымы толькі з дазволу камісіі. ГалоўАПУ займаецца «ціхім сабатажам», «а тут яшчэ «ЛіМ» «выказаўся»...

Далей цытую радкі, прысвечаныя нашай газеце: «Як толькі не лаюцца. «Апалагетыка замест пакаяння», што «гэта помнік «у славу савецкай зброі». Аўтар артыкула («ЛіМ» № 51, 1990 г. — П. В.) у вочы не бачыў ні палажэння, ні праекта будаўніцтва, а ўжо робіць свае патэтычныя вывады. Але ж у першую чаргу гэта будзе помнік маці, сыны якіх загінулі...»

Дазволю заўважыць, што паважаны т. Каралёў карыстаецца ў палеміцы несумленнымі прыёмамі, прыпісвае апаненту ўласныя хібы — у прыватнасці схільнасць да «патэтычных вывадаў». Раю чытачам звярнуцца да лімаўскай публікацыі і пашукаць у гэтым чыста аналітычным матэрыяле хоць нейкую патэтыку.

Міжволі прыгадваю тэлефонную размову, што адбылася адразу пасля надрукавання ў «ЛіМе» нататак з нагоды конкурсаў на мемарыял у Курапатах і помнік воінам-«афганцам». У рэдакцыю пазваніў абураны т. Каралёў. Абвінавачыўшы газету ў сабатажы і непавазе да памяці загінуўшых, ён патэтычна ўсклікнуў: «Да знаете ли вы сколько наших ребят погибло в Афганистане?!» Відаць, хацеў здзівіць нас сваёй інфармаванасцю.

Дарэчы, у час той тэлефоннай размовы мы даволі грунтоўна абмеркавалі слабыя бакі праекта, што так палюбіўся ЦК ЛКСМБ. Так што т. Каралёў свядома гаворыць няпраўду, калі сцвярджае, што аўтар лімаўскай публікацыі «ў вочы не бачыў ні палажэння, ні праекта будаўніцтва». Таварыш Каралёў нават паабяцаў даслаць у «ЛіМ» свае нататкі з нагоды нашай публікацыі і заручыўся згодаю, што яны будуць у «ЛіМе» надрукаваны. Прайшло ці не дзевяць месяцаў, і ў пакутах народжаны матэрыял пабачыў свет... у «Добрым вечары». Відаць, надта ж не любіць загадчык аддзела ЦК ЛКСМБ нашу газету, калі дазволіў сабе не стрымаць «чэснае камсамольскае» слова. Але паколькі дыскусія ўсё-такі атрымала працяг, дык мае сэнс вярнуцца да прадмета дыскусіі.

ЯК ГЭТА НІ ДЗІЎНА, але дагэтуль не акрэслена ідэйная канцэпцыя мемарыяла; інакш кажучы, незразумела, каму і з якой мэтай ставіцца помнік. Мы збіраемся ўславіць подзвігі ці ўшанаваць ахвяры, ці зрабіць тое і другое адначасова? Які ўвогуле сэнс мы ўкладаем у разуменне «афганская вайна»? Гэта інтэрнацыянальная дапамога суседняй дзяржаве ці злачынства супраць яе народа? «Афганцы» — гэта сапраўдныя воіны-інтэрнацыяналісты ці ахвяры таталітарнага рэжыму, які зрабіў спадкаемцаў славы 1945 года інтэрвентамі і акупантамі? Помнік славы ці помнік пакаяння — бо, дарэчы, «проста так» помнікаў не бывае.

Адной з праяў так званага новага мыслення ў міжнароднай палітыцы сталі афіцыйныя заявы савецкага кіраўніцтва, у якіх «інтэрнацыяналістычныя» акцыі Савецкай Арміі 1968 года ў Чэха-Славакіі і ў 1979—1989 гадах у Афганістане прызнаны палітычнымі памылкамі. Народам гэтых краін ва ўскоснай форме прынесены прабачэнні. Але, на маю думку, нашым кіраўніцтвам трэба было б найперш павініцца перад уласным народам, уцягнутым па волі вярхоў і па ўласнаму бязволлю ў крывавыя палітычныя авантуры пад сцягам «пралетарскага інтэрнацыяналізму».

А пакуль што ёсць нібыта дзве праўды: адна ў экспартным выкананні, другая — для ўнутранага карыстання. Унутры краіны Афганская вайна паранейшаму прадстаўляецца як гераічная акцыя Савецкай Арміі, як школа мужнасці для тых, каму «не пашчасціла» паўдзельнічаць у Вялікай Айчыннай (позна нарадзіліся), як абарона дзяржаўных інтарэсаў СССР. Улады заігрываюць з «афганцамі», спрабуюць узяць пад кантроль іх аб'яднанні (тут не апошняя роля адводзіцца камсамолу), накіраваць іх незадаволенасць жыццём, знерваванасць і азлобленасць супраць дэмакратычных рухаў і партый. Нездарма менавіта былыя «афганцы» складаюць касцяк АМАПа, а пра «подзвігі» АМАПа — кожны вечар у праграме «Час»: спаленыя мытні, захопленыя тэлевышка і тэлефонная станцыя, атакі на дзяржаўныя ўстановы ў рэспубліках Балтыі.

Менавіта ў Траецкім прадмесці 20 красавіка 1986 года адбыўся інцыдэнт, пасля якога слова «афганец» на Беларусі згубіла рамантычны арэол. У гэты дзень нецвярозыя ветэраны Афганскай вайны білі «нацыяналістаў» — падлеткаў, вучняў Рэспубліканскай мастацка-музычнай школы-інтэрната імя Ахрэмчыка. На разгубленыя і абураныя воклічы: «Што вы робіце?!», чуліся цынічныя адказы — нас, маўляў, біць нацыяналістаў накіравала ЦК камсамола, нам за гэта нічога не будзе. «И вообще! Прекрати хрюкать по-белорусски. Здесь Россия!»

Я прыгадаў гэта, каб адзначыць, што камсамол Беларусі заўсёды быў неабыякавы да афганскіх ветэранаў.

Праект помніка, які ЦК ЛКСМБ імкнецца паставіць у Траецкім, якраз адпавядае прынцыпам «праўды для ўнутранага спажывання», цалкам ігнаруючы існаванне «экспартнага варыянта». Гэта тыповы ўзор імперскага стылю ў манументальнай пластыцы, варыяцыя на тэму валгаградскага Мамаева кургана, дакладней аднаго з фрагментаў мемарыяльнага комплексу — «сцяны-руіны», з якой выступаюць на гледача «людзі-камяні». У такой стылістыцы па ўсяму Савецкаму Саюзу выкананы-зроблены дзесяткі, а мо і сотні помнікаў салдатам Вялікай Айчыннай вайны. Такім чынам, незалежна ад таго, што запісана ў палажэнні аб конкурсе, ухвалены наменклатурай праект (калі яго толькі

не ішла да ролі абхадным шляхам. Я часта не магу слухаць, удзельнічаць у г. зв. «грымёрных» размовах. Мо адбітак травесці? Некаторыя мае калегі лічаць мяне хітрай, выкрутлівай, але я не магу сама для сябе зразумець: калі я працую з вамі як партнёр, я мушу любіць вас Як жа я магу плесці сеці вакол вас?! Гэта ж адразу адаб'ецца на сцэне! І калі я выходжу з вамі як партнёр на сцэну, я знайду тысячу прычын, каб закахацца ў вас! На жаль, калі сёй-той не можа пераўзысці мяне на сцэне, дык... шукае іншыя шляхі. Шкада. Я б дапамагла, калі б гэты сёй-той мог узяць ад мяне і... хацеў бы гэтага. А яшчэ.. казаць ці не?.. Ведаеце, колькі ў мяне было траўм ад калег-акцёраў? Калі партнёр дазваляе сабе да раніцы «разнявольвацца», дык як ён можа ў 10.30 выканаць трук?! Творчы чалавек павінен з самага пачатку ведаць, што яго-ная прафесія вымагае пэўных абмежаванняў.

— І ўсё ж у тэатры, тым больш у ТЮГу, існуюць і аб'ектыўныя прычыны незапатрабаванасці пэўных акцёраў?

— Вядома, некаторым катэгорыям акцёраў перападае мала работы Але я ўпэўнена, што АКЦЁРА ніколі немагчыма «закапаць». Няхай раз у пяць гадоў, але ён «усплыве». А спецыфіка ТЮГа... Я б магла сыграць ледзі Макбет, але ведаю, што ніколі не сыграю. Фізічна. Да этай акцёрскай трагедыі я падрыхтавалася яшчэ дзесяць гадоў таму назад...

**Гутарку вёў Уладзімір ГРАЎЦОЎ, загадчык літаратурнай часткі ТЮГа.**

Фота В. ВІТЧАНКІ.

рэалізуюць) будзе замацоўваць у грамадскай свядомасці абсурдную і небяспечную думку аб падабенстве Вялікай Айчыннай і Афганскай войнаў.

Недзе ў сярэдзіне 80-х гадоў у час сацыялагічных доследаў маладым амерыканцам задавалі пытанні, ці ведаюць яны, чаму Злучаныя Штаты прайгралі В'етнамскую вайну? Адказам было абсалютна шчырае здзіўленне: «А ці ж мы яе прайгралі?» Цікава, як адкажуць на падобнае пытанне аб Афганскай вайне гадоў праз дзесяць нашыя дзеці?

У СВАІМ ІНТЭРВ'Ю «Добраму вечару» т. Каралёў сцвярджае, што, акрамя Траецкага прадмесця, для помніка «іншага месца ніхто прапанаваць не можа». Выношу прапанову, якая, спадзяюся, будзе мець пэўны рэзананс. Перагляд савецкай гісторыі зайшоў так далёка, што ў хуткім часе гістарычнае імя будзе вернута Санкт-Пецярбургу. Ідзе дэмантаж афіцыёзных бальшавіцкіх помнікаў, адыёзныя імёны знікаюць з назоваў вуліц, плошчаў, гарадоў. Няма сумнёву, што ў хуткім часе ў Менску не будзе вуліцы і плошчы Мясцікова, а тым болей ніколі не паўстане помнік гэтаму ненавісніку беларушчыны. Вось і месца для помніка «афганцам». Прычым тэма мемарыяла магла б быць пашырана: Афганістан 1979—1989, Чэха-Славакія — 1968, Венгрыя — 1956. Гэта можа быць помнік усім беларусам, што бессэнсоўна пралівалі сваю і чужую кроў за інтарэсы імперыі ў чужых землях. Помнік-храм, храм пакаяння.

Ці чым горшая пляцоўка, якую зараз займае бюст Дзяржынскага насупраць будынка КДБ? Устаноўка помніка «афганцам»—ахвярам таталітарызму на месцы, дзе стаяў адліты ў бронзе на гранітным пастаменце заснавальнік бальшавіцкай катоўні, мела б сімвалічны сэнс, як развітанне з эпохай гвалту і тэрору.

Помнік, вядома, будзе. Але які?..

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

МУЗЫКА

# «МАЛА МЫ ВЫСТУПАЕМ...»

«Што можа быць больш фальшывым за адну флейту? — Дзве флейты».

Гэтыя словы, якія нібыта належаць Моцарту, даводзілася чуць кіраўніку ансамбля флейтыстаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ніне Аўраменка ці не пасля кожнага канцэрта. Але калі Моцарт сказаў так некалі пра флейту таму, што яна і сапраўды вельмі цяжкі інструмент адносна чысціні ладу, дык тыя музыканты, якія прыходзілі за кулісы павіншаваць Ніну Васільеўну, з яўнай іроніяй да Моцартавых слоў вымаўлялі яго крылатую фразу. Бо ігра маладых флейтыстаў, студэнтаў кансерваторыі, зачароўвае слухачоў не толькі майстэрствам выканання, але перш за ўсё чысцінёй ладу, пра якую так захоплена адгукаюцца прафесіяналы.

Перада мной некалькі афіш, якія захоўваюцца ў ансамблі. Кіеў. 1988 год. Кастрычнік. Канцэрт флейтавай музыкі. Літаральна ўся афіша размалявана вясёлкаю почыркаў — гэта словы ўдзячнасці ансамблю за цудоўнае выкананне. «Даўно не атрымліваў такого задавальнення. Мне ўсё спадабалася, але асабліва дзівосная чысціня інтанацыі і той цудоўны творчы дух, які так рэдка сустракаецца ў наш час». Такі аўтограф пакінуў прафесар Кіеўскай кансерваторыі У. Апацкі.

Другая афіша. Адэса. 1989 год. Верасень. Сімпозіум выканаўцаў на драўляных духавых інструментах. «Шчаслівы, што мог удзельнічаць у такім форуме. Асабліва ўзрадаваны мінчанамі. Цудоўны ансамбль. Дзякуй Ніне Васільеўне і гадаванцам», — напісаў саліст-флейтыст Камернага аркестра Грузіі Н. Кікнадзе.

Афіша канцэрта ў Ленінградзе, і сярод надпісаў — аўтограф прафесара Ленінградскай кансерваторыі Г. Нікіціна. А вось аўтограф прафесара Дзяржаўнага музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных І. Мазгавенкі пасля канцэрта ў Харкаве... Цікава, дзе ж афіша канцэрта ў Мінску і хто з нашых сталічных музыкантаў адгукнуўся на ігру ансамбля?.. Такой афішы не знаходжу. Адзінае, што ведаю, — летась на дабрачынным канцэрце «Юныя музыканты—дзецям Чарнобыля» ўпершыню пачуў ігру ансамбля народны артыст БССР М. Дрынеўскі, які тады ж выказаў сваё захапленне выкананнем, рэпертуарам і такой рэдкай для флейты якасцю, як чысціня ладу, а яшчэ — шкадаванне, што не давялося слухаць нашых юных флейтыстаў раней.

А цяпер — слова кіраўніку ансамбля, старшаму выкладчыку БДК **Н. Аўраменка:**

— З першых гадоў педагагічнай працы я старалася, каб мае вучні або студэнты ігралі ў ансамблі незалежна да таго, ці трэба гэта па праграме або не. Бо амаль кожнаму флейтысту ў будучым давядзецца іграць у камерным ансамблі ці ў аркестры. Без навыка гэта вельмі цяжкая справа. І, ведаеце, плён — відавочны. Ад гэтага і чысціня ладу, якая так здзіўляе слухачоў. А дзіўнага ж нічога няма. Упартая праца і ўсё...

Ігра ў ансамблі выхоўвае яшчэ адну важную якасць — гэта пачуццё таварыша, павага і, калі хочаце, любоў да бліжняга. Бо, скажам, людзі, якія не паважаюць адно аднаго, ніколі не аб'яднаюцца ў ансамбль. Калі ж іх усё-такі прымусіць іграць разам, ім вельмі цяжка будзе знайсці агульнае дыханне, дамагчыся тонкасці нюансіроўкі, адчуць тэмпарытм твора і г.д. Удзельнікі ансамбля цудоўна ведаюць і адчуваюць адно аднаго, штодня сустракаюцца, размаўляюць пра музыку, пра жыццё. Усё гэта садзейнічае добраму ансамблю і дае падставу слухачам ставіць словы Моцарта пад сумненне. А Моцарт жа абсалютна меў рацыю. Флейта — вельмі цяжкі інструмент адносна чысціні ладу.

Першае сур'ёзнае выступленне было, пэўна, у 1983 годзе, калі яшчэ з вучнямі Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК я ўпершыню выехала на вельмі адказны канцэрт у Ерэван. Там праходзіла Усесаюзная канферэнцыя выкладчыкаў музычных спецшкол-адзінаццацігодак. У зале, вядома, была прафесійная публіка, страшнавата было, але вытрымалі мы гэты экзамен на «выдатна». Затым былі іншыя канцэрты, не менш адказныя. Потым пачалася мая праца ў кансерваторыі, з'явіліся новыя людзі. Ёсць свае цяжкасці, але разам усе стараемся іх перадольваць. Канечне, пабываць на якім-небудзь міжнародным конкурсе ці паездзіць з канцэртамі па якой-небудзь экзатычнай краіне—такая мара, думаю, ёсць у кожнага музыканта, але на сённяшні дзень нам проста хочацца часцей выступаць з канцэртамі. Мала мы выступаем. А выступленне перад аўдыторыяй ні ў якае параўнанне не ідзе з тым, што мы іграем у маленькім класе.



За той час, пакуль мы гутарылі з Нінай Васільеўнай, хоць гэта і было пасля яе работы, пастаянна заходзілі ў клас студэнты: хто з пытаннямі, хто з прапановамі, хто проста так. Я бачыў, з якой цеплынёй і любоўю яны ставяцца да свайго педагога і педагог да іх. І лішні раз пераконваўся, што поспех любой справы, вынік якой залежыць ад калектыўнай працы,—няхай будзе гэта завод, калгас, футбольная каманда, гэтаксама як хор, аркестр і нават невялікі ансамбль — цалкам залежыць ад кіраўніка.

Аднак, давайце пазнаёмімся з выхаванцамі Н. Аўраменкі: Ларыса Ласоцкая, Сяргей Балыка, Якаў Гелер, Яўген Віданаў, Сяргей Картэс, Аляксандр Груздзеў, Антон Дубатоўка, Вадзім Сідараў—ансамбль флейтыстаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

**Арнольд ДЫБЧА.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, ансамбль атрымаў доўгачаканы канцэрт у Зале камернай музыкі БДФ.**

# Ці дапамогуць «пікетчыкам»?

**У спісах лаўрэатаў рэспубліканскіх конкурсаў музыкантаў-выканаўцаў, розных фестываляў і аглядаў ужо амаль два дзесяткі гадоў сустракаюцца прозвішчы навучэнцаў Лідскага музычнага вучылішча. Яго выхаванцаў і выкладчыкаў (хаця ў якасці гледачоў) можна бачыць на ўсіх значных канцэртах вядомых музыкантаў у Гродне, Мінску, Вільнюсе.**

**А нядаўна члены дружнага калектыву выступілі ў якасці... пікетчыкаў, калі выйшлі са сваімі патрабаваннямі да будынка гаркома КПБ.**

**Што прывяло іх туды! Чым жыве гэты творчы калектыў! Гутарым з дырэктарам Лідскага музычнага вучылішча М. БАЯРОВІЧАМ.**

**— Міхаіл Андрэевіч, прынята лічыць, што інтэнсіўнасць культурнага жыцця, моц творчага патэнцыялу слабеюць па меры аддалення ад сталіц. Сапраўды, Мінск у гэтых адносінах не параўнаць з Масквой, Гродна—з Мінскам... Ваша вучылішча далёка ад сталіц. Ці адчуваеце вы яго правінцыйнасць?**

— Цяжка адказаць адназначна. Думаю, трэба расказаць пра гісторыю вучылішча, яго сённяшні дзень, пра нашы дасягненні і праблемы.

Наш першы выпуск адбыўся ў 1977 годзе. І ўжо тады з васьмідзесяці навучэнцаў, якія атрымалі дыплом, шэсць сталі студэнтамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, прычым па розных спецыяльнасцях (баян, струнныя інструменты, кларнет). Крыху раней тры мастацкія калектывы вучылішча занялі прызавыя месцы на рэспубліканскім конкурсе. Гэта хор (першае месца), аркестр народных інструментаў (другое), аркестр баянаў (трэцяе).

Усе гэтыя калектывы, крыху відазмененыя, існуюць і сёння. У вучылішчы працуюць аркестры рускіх народных інструментаў, цымбальны і духавы, хор фальклорнай песні, ансамбль скрыпачоў, эстрадны ансамбль «Фестываль», жаночы хор. Творчы патэнцыял іх дастаткова высокі — усе яны лаўрэаты рэспубліканскіх конкурсаў. Праблемы ўзнікаюць з хорам. Калі раней ён быў змешаны, то цяпер давялося ператварыць яго ў жаночы, таму што большасць нашых навучэнцаў, на жаль, складаюць дзяўчаты.

**— Каб стварыць такую колькасць мастацкіх калектываў, патрэбны, напэўна, вельмі моцны і, галоўнае, творчы выкладчыцкі склад?**

— Безумоўна. У нас, вядома, існуе праблема кадраў, і ўсё ж большасць выкладчыкаў не толькі на высокім узроўні вядуць свае прадметы, выхоўваючы вучняў, але і самі актыўна займаюцца канцэртнай і творчай дзейнасцю. У канцэртах, якія мы часта даём у вёсках Лідчыны і ў суседніх раёнах, у вайсковых часцях, разам з вучнямі іграюць і настаўнікі: скрыпач М. Дзвілянскі, баяністы А. Акімаў і А. Патапейка, цымбалісты У. Дубіцкі, М. Саўко, З. Дзедунова, выступаюць сола-вакалісты Т. Бугасава, Т. Гарачова, С. Ляонава. Выкладчык В. Бубен у хуткім часе выдасць свой зборнік эцюдаў.

У вучылішчы створана пяць канцэртных брыгад, якія рэгулярна гастралююць па гарадах і вёсках так званай Лідскай зоны: Дзятлаўскага, Карэліцкага, Навагрудскага, Воранаўскага, Іўеўскага, Смаргонскага, Ашмянскага і Астравецкага раёнаў. Бываюць і больш прэстыжныя гастролі: напрыклад, ансамбль «Фестываль» удзельнічаў у Міжнародным конкурсе ў Вільнюсе, двойчы яму давodзілася выступаць па Гродзенскім тэлебачанні.

**— Мяркуючы па нашай гутарцы, вам удаецца не патануць у хвалях правінцыйнага жыцця. У вашым калектыве адчуваецца творчая атмасфера. Што ж прымусіла выйсці з пікетам да гаркома КПБ?**

— Умовы, у якіх вымушаны працаваць. Вучылішча размешчана ў старым будынку былой сярэдняй школы. Катастрафічна не хапае вучэбных класаў. На 260 навучэнцаў усяго 25 класаў для індывідуальных заняткаў, у той час як патрэбна мінімум 100. Дзеці вымушаны займацца музыкай у вестыбюлях, на лесвічных пляцоўках, у закутках. Некалькі класаў удалося абсталяваць у інтэрнаце, але ж гэта не выйсце. У вучылішчы няма добрай бібліятэкі, чытальнай і спартыўнай залаў.

А насупраць у будынку гаркома КПБ пасля скарачэння штатаў засталася пустою палавіна кабінетаў. Вось мы і хацелі б іх заняць. Пытанне было вынесена на сесію гарсавета, аднак тагачасны першы сакратар ГК КПБ Г. Ударцаў прапанаваў стварыць камісію па вывучэнні гэтага пытання. Скончылася ўсё тым, што пустыя кабінеты аддалі грамадскім арганізацыям, а мы так і засталіся ні з чым. І няма ніякай перспектывы ў гэтай пяцігодцы.

Застаецца скарачаць набор навучэнцаў, каб стварыць больш-менш нармальныя ўмовы для працы. І скарачаем, нягледзячы на тое, што ў музычных школах вобласці існуе праблема кадраў. Напрыклад, на пяць выпускнікоў-піяністаў у нас ужо цяпер дваццаць адна заяўка.

І тым не менш мы не апускаем рукі, не перастаём працаваць і ствараць. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца нядаўнія ўзнагароды на IV Рэспубліканскім аглядзе метадычнай і творчай работы выкладчыкаў. Шаснаццаць з іх атрымалі нашы настаўнікі.

**— Застаецца спадзявацца, што вашу просьбу аб дапамозе пачуюць кіраўнікі горада Ліды і Гродзенскай вобласці, пажадаць вам найхутчэйшага наваселля і творчых поспехаў.**

**Л. НАВІЦКАЯ, журналіст.**

г. Ліда.

# НА МАГІЛЕ ПАЭТА



100

*Шмат у нашым жыцці ёсць дарог. А вядуць яны ўсе да магілы.*

**М. Багдановіч.**

Кажуць, што смерць, як і нараджэнне — дзея ўзвышаная. Таксама кажуць, што нараджэнне не з'яўляецца пачаткам, гэтаксама як смерць — канцом. Мы не будзем разважаць пра смерць, паспрабуем абысці ўсе ўзвышаныя моманты, бо наш артыкул мае практычныя мэты. Мы хацелі ўзнавіць і захаваць гісторыю пошукаў магілы нашага любімага паэта Максіма Багдановіча.

**1917 г.**

25(12) мая ў Ялце адзінока памірае класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч. Хто хаваў паэта, хто замаўляў царкоўную службу ў саборы А. Неўскага — невядома.

Праз чатыры дні з Сімферопаля на аўтамабілі прыехаў бацька — Адам Ягоравіч. Ён наведаў магілу сына. Хто суправаджаў яго пры гэтым — невядома.

**1923 г.**

Адам Ягоравіч піша ўспаміны пра сына, дзе паміж іншага згадвае наведванне магілы.

**«Пахавалі яго на ялцінскіх могілках, што недалёка ад Мікалаеўскай вуліцы ў накірунку гор, на самым ускрайку могілак ля дарогі з супрацьлеглага мору боку, г.зн. з боку гор. У галавах пастаўлены невялікі белы крыж з надпісам на бляшанай таблічцы яго імя (студэнт Максім Адамавіч Багдановіч) і калі ён памёр. У дзвюх сажанях па прамой лініі ад галавы пахаваны студэнт Карлсан. Паведамляю як некаторую прыкмету. Месца абрана надзвычай няўдала: ліўні і патокі з крутога схілу лёгка маглі размыць магілу. Я наняў вартаўніка, каб магілу ўмацаваць і ўпарадкаваць, пакінуў грошы гаспадыні, каб пасадзіць кіпарысы і куст ружаў, прасіў сачыць за гэтым двух знаёмых, у тым ліку і дачку майго саслужыўца, асабістую знаёмую Максіма, але ці зроблена гэта — не ведаю. Праз некалькі дзён я паехаў з Крыму. Двойчы пісаў з Яраслаўля знаёмым, але не атрымаў адказу: вядома, як дзейнічала ў гэты час пошта, ды й людзям было не да чужых магіл».**

Гэта першае і, здавалася б, вельмі дакладнае апісанне магілы. Але ўскраек могілак праз пэўны час перастае быць ускрайкам, горы і мора не з'яўляецца ў дадзеным выпадку арыенцірам. Усе адлегласці, згаданыя праз пяць год, з цяжкасцю могуць прэтэндаваць на дакладнасць. Застаецца:

1. Магіла знаходзіцца на схіле.
2. На магіле быў драўляны крыж з бляшанай таблічкай.
3. Побач пахаваны студэнт Карлсан (галоўны арыенцір).

**1924 г.**

У Ялту прыязджаюць маладыя паэты — У. Дубоўка, А. Вольны (Ажгірэй), А. Александровіч. Ім трэба адшукаць магілу, каб да 10-годдзя з дня смерці ўрад рэспублікі змог паставіць на ёй помнік і такім чынам ушанаваць памяць класіка. Працэс пошукаў апісаны ў артыкуле У. Дубоўкі «На Багдановічавай магіле» («Узвышша» № 2, 1927).

**«Агледзелі двое могільнікаў у межах Ялты. Заходзім у цэрквы, каб адшукаць запісы ў царкоўных кнігах — няма. Урэшце, у аўторак, 18 жніўня надумаліся пайсці на «новы» могільнік, што за горадам.**

**Зацікавілі вартаўніковых сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканню.**

**Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынеслі нам таблічку з жалобным напісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары, па адхону... Ці варта вінаваціць іх? — гэта было адзінай забавай іх. Не пакрыўдзіўся б на іх і нябожчык, які меў такое вялікае замілаванне да маладога жыцця.**

**Знаходзім магілку, пра якую казаў Я. Дыла (магіла Карлсана?). Але навокал яе таксама магілкі з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумніву... У тым жа часе далі тэлеграму ў Менск, каб прыслалі адтуль грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка Гартны паводле свайго праекту, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад'ездам сфатаграфавалі магілу, каб пасля не прыйшлося ШУКАЦЬ НАНОВА. Таблічка ад магілы з жалобным напісам і негатывы фатаграфіі перададзены намі Інстытуту Бел. культуры пасля прыезду».**

У 1924 г. у Ялце былі Новыя гарадскія могілкі (за горадам), Лівадзійскія (па дарозе на Лівадзію), Аўцкія і могілкі Іаана Златавуста (у межах горада). Абыходзячы «могільнікі ў межах горада», У. Дубоўка не мог знайсці запісаў у царкоўных кнігах; хаця на Аўцкіх могілках была Успенская царква, а на могілках Іаана Златавуста — адпаведна такая ж капліца. Але М. Багдавовіча хавалі на Гарадскіх могілках і адпявалі ў саборы Аляксандра Неўскага.

**1990 г.**

Запіс у царкоўнай кнізе адшукала супрацоўніца Ялцінскага гісторыка-літаратурнага музея Зінаіда Георгіеўна Лівіцкая. Вялікі ёй дзякуй. Гэты дакумент пацвердзіў, што Багдановіч быў пахаваны менавіта на Гарадскіх могілках.

**1991 г.**

У юбілейны год пачалі з'яўляцца чуткі, што магілу Багдановіча ўжо некалькі разоў пераносілі: ці то з адных Ялцінскіх могілак на другія, ці ў межах адных могілак, у сувязі з будаўніцтвам дарогі.

Мэтай нашай камандзіроўкі было ўдакладненне ўсіх фактаў, якія тычацца смерці, пахавання, месцазнаходжання магілы паэта. Шмат пытанняў узнікла яшчэ ў Мінску пры чытанні ўспамінаў бацькі, лістоў Язэпа Дылы да Адама Ягоравіча Багдановіча, артыкула Дубоўкі. Напрыклад: «Таблічка ад магілы з жалобным напісам і негатывы фатаграфіі перададзены намі Інстытуту Беларускай культуры пасля прыезду», — пісаў Дубоўка. А што ж яны пакінулі на адшуканай магіле? Праўда, супакоілі ўспаміны Дубоўкі пра Цішку Гартнага: «я ўзяў фатографа, склаў нанова крыж, сфатаграфаваў і дадаткова сустрэўшыся з Цішкам Гартным, звазіў яго на могілкі, паказаў месца. Пасля я паехаў з Крыма, а Змітро Хведаравіч, атрымаўшы ад Беларускага ўрада належныя грошы, арганізаваў устаноўку надмагільнага знака».

**16 мая 1990 г.**

Мы сустрэліся з З. Лівіцкай, якая адшукала царкоўную кнігу. Ад яе даведаліся, што перанос магіл з адных могілак на другія ў Ялце сапраўды быў: частку магіл з Аўцкіх (Батурынскіх) могілак перанеслі на могілкі Іаана Златавуста (Палікураўскія). На месцы Аўцкіх могілак — сквер. Дакладна вядома, што Багдановіч быў пахаваны на Гарадскіх могілках, таму гэты перанос не мае ніякага дачынення да магілы паэта. Зінаіда Георгіеўна распавяла, што ў 1942 годзе Ялту наведалі беларускія пісьменнікі (хто — невядома). Разам з дырэктарам Ялцінскага краязнаўчага музея Яўгенам Андрэевічам Варанцовым адшукалі магілу на Гарадскіх могілках. Пра экспедыцыю 1924 г. Зінаіда Георгіеўна нічога не ведала. З Я. Варанцовым сустрэцца не давялося па прычыне яго цяжкай хваробы.

А колькі разоў магілу Багдановіча адшуквалі нанова?!

*У Ялце ў нас быў яшчэ адзін клопат* — выстава (музей у мініяцюры), якую музей Максіма Багдановіча падрыхтаваў да стагоддзя з дня нараджэння паэта. Адкрыццё выставы адбылося 17 мая ў Ялце, экспанавалася яна ў Ялцінскім гісторыка-літаратурным музеі, у доміку, дзе ў свой час жыла Леся Украінка. У Сімферопальскі абласны архіў выбраліся 20 мая — і безвынікова. Дакументаў, якія нас цікавілі, там не аказалася. І нам адказалі, што нават калі такія некалі існавалі, то пад час грамадзянскай вайны іх выкарыстоўвалі на мясцовым рынку ў якасці абгортачнай паперы.

**31 мая 1991 г.**

Былыя Новыя Гарадскія, а цяпер Старыя Гарадскія могілкі. Афіцыйна зачынены ў жніўні 1986 г.

Сонца залаціць вершаліны нерухомых кіпарысаў, паветра поўніцца водарам экзатычных кветак. Тут, дзе спакой і цішыня, дзе забыты ўсе крыўды і спадзяванні, дзе ўсё дыхае ў лад з зямлёй, пахаваны «пясняр чыстае красы». Помнік з шэра-брунатнага вапняка пафарбаваны ў белы колер, два бел-чырвона-белыя сцяжкі, шмат кветак.

Аглядаем навакольныя магілы. Замест безыменных крыжоў, пра якія згадваў У. Дубоўка, — пахаванні 70-х гадоў. «У дзвюх сажанях па прамой лініі ад галавы», дзе быў пахаваны студэнт Карлсан,—магіла 1971 года. За метраў восем па адхоне — адзінокая магіла 1915 года. Каля Багдановіча пахаваны тры пісьменнікі: Бірукоў (п. 1966 г.), Дзмітрыеў (п. 1936 г.), Лін (п.1958 г). Магіла Ліна Паўла Рыгоравіча *паралельна магіле Багдановіча, адлегласць паміж імі* — паўтара метра, помнік і агароджа абсалютна аднолькавыя, надмагільны знак Багдановічу «стэўляў Цішка Гартны паводле свайго праекту». Напэўна, праектам Цішкі Гартнага быў толькі надпіс на помніку, а сама пірамідка — стандартнай. Няўжо гэтыя стандарты такія жывучыя, што не змяніліся з 1924 да 1958 года?

Заходзім у кантору, яна знаходзіцца тут жа пры ўваходзе (вул. Блюхера, 28). У канторы нас сустракае п'янаватая прыёмшчыца заказаў. «Так, так, знаю, — гаворыць яна, — магіла беларускага паэта. Яе перанеслі да нас у 1971 годзе. Я яе ўжо два гады ўсім паказваю і расказваю». «Вось так узнікаюць чуткі», — думаем мы. Просім паглядзець дакументацыю. У кнізе ўліку адзначаны сектар, рад, нумар магілы, але старыя (даваенныя) магілы не адзначаны наогул.

**22 мая 1991 года.**

Сустракаемся з начальнікам могілак П. Каваленкам і старэйшым работнікам могілак (з 1961 г.) В. Рашэтнікавым. Пётр Мікалаевіч Каваленка растлумачыў, што ўся дакументацыя на могілках вядзецца з 1947 года, да вайны не вялася, да рэвалюцыі — невядома. *Плана могілак не існуе. Месца, на якім сфатаграфаваліся* ў 1924 г. Дубоўка, Ажгірэй, Александровіч, паводле слоў П. Каваленкі, вельмі падобна на 36 сектар, дзе знаходзіцца магіла Багдановіча. Абвадную дарогу каля могілак будавалі ў 1959 годзе, але магілы пры гэтым не пераносілі. П. Каваленка ўпэўнены, што пасля вайны магілу не пераносілі, і да вайны гэта не мела сэнсу.

У В. Рашэтнікава, які быў далакопам, наглядчыкам і каменячосам, мы пацікавіліся, чаму ў людзей, пахаваных у розныя часы, аднолькавыя помнікі? «Адзін помнік можа быць выкарыстаны не адзін раз», — адказаў нам былы каменячос.

Цяжка разважаць аб падзеях 74-гадовай даўнасці,



Ялта 1924 г. А. Ажгірэй, У ДУБОЎКА і А. АЛЕКСАНДРОВІЧ на магіле Максіма БАГДАНОВІЧА. (Здымак перададзены ў фонды музея В. Ю. ДЭКОНСКАЙ і Т. Ю. ПШЫРКОВАЙ).

не маючы на руках пісьмовых дакументаў. Шмат людзей у розныя часы высвятлялі тыя ж пытанні, што і мы ў 1991, юбілейным годзе. На прыкладах з запісам у царкоўнай кнізе, успамінамі А. Я. Багдановіча, артыкулам У. Дубоўкі добра відаць, што толькі факты, зафіксаваныя на паперы, застаюцца фактамі на працягу часу, усё астатняе мяняецца, знікае без следу. Мы ўпэўнены, што шмат у каго ёсць здымкі магілы, зробленыя ў розныя гады, ёсць людзі, якія б маглі распавесці гісторыю сваіх пошукаў, і пры гэтым маглі б адкрыцца новыя факты. Было б добра, каб уся інфармацыя была сабрана ў музеі, які з'яўляецца ідэальным сховішчам і культурнай установай, якая накіроўвае ўвагу людзей на пэўныя праблемы і фарміруе грамадскую думку.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Горкага, 7-а, Літаратурны музей Максіма Багдановіча.

**Алена КІСЯЛЕВІЧ,**
**Паліна КАЧАТКОВА,**
супрацоўнікі музея.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12